

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№498 Ліпень 2004 г.
Год выданьня 55

## Ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
### да 80-годзьдзя народзінаў сьв. пам. Васіля Быкава



**ВАСІЛЬ БЫКАЎ У "ДАРОЗЕ ДАДОМУ"**

Мала хто так глыбока разумеў і шырока раскрыў сутнасьць савецкага і постсавецкага рэжыму ў Беларусі, як Васіль Быкаў. У многіх сваіх мастацкіх творах ды ў выступленьнях на публічных форумах і ў публіцыстыцы Васіль Быкаў даў трапныя характырыстыкі й уніклівыя ацэнкі тым падзеям і зьявам, сьведкам або ўдзельнікам якіх ён быў сам. Сваім філязофскім розумам і патрыятычным сэрцам Васіль Быкаў спасьцігнуў народную праўду ды таленавіта і мужна выказаў яе.

Хоць Васіль Быкаў вярнуўся з выгнаньня на Бацькаўшчыну ды пахаваны ў роднай зямлі, сымбалічна ён яшчэ ў "доўгай дарозе дадому". Ён дойдзе да Беларусі толькі тады, калі там запануе справядлівасьць, праўда ды пашана гістарычнае і культурнае спадчыны, узбагачэньню якое пісьменьнік і патрыёт прысьвяціў свой талент і сваё жыцьцё.

**Рада БНР**

*Нью-Ёрк, 19 чэрвеня 2004 г.*

## ЗАЯВА
### прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня да удзельнікаў галадовага страйку ў Менску

*Нью Ёрк, 8 чэрвеня 2004 г.*

***Валерыю Фралову, Сяргею Скрабцу, Уладзімеру Парфяновічу, Марыне Багдановіч, Генадзю Ананьеву, Уладзімеру Чырвоненкаву, Юрыю Істоміну, Віктару Івашкевічу, Уладзімеру Радзівончыку.***

Ад імя беларускай грамады Амэрыкі вітаем вас як адважных і сьмелых людзей, што падняліся на абарону свабоды й дэмакратыі ў Беларусі, якім неабыякавыя лёсы нашай агульнай Бацькаўшчыны.

Выказваем вам усім падтрымку і салідарнасьць у справе змаганьня супраць дыктатуры, парушэньня правоў чалавека і зьнішчэньня беларускай культуры.

Жадаем вам посьпеху ў высакароднай справе набліжэньня часу, калі нашая Бацькаўшчына стане сапраўды незалежнай, дэмакратычнай, беларускай.

Жыве Беларусь!

***Антон ШУКЕЛОЙЦЬ,*** *Старшыня Галоўнай Управы БАЗА*
***Віталь ЗАЙКА,*** *старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА*
***Алеся КІПЕЛЬ,*** *прадстаўнік БАЗА ў Вашынгтоне*

## Беларусаведа на канфэрэнцыі славістаў Канады

Сёлета Канфэрэнцыя Славістаў Канады, якая адбываецца ў рамках Кангрэсу Навуковых Суполак Канады, мела месца ад 30 траўня да 1 чэрвеня ва Ўнівэрсытэце Манітобы й Вініпэгу.

Беларуская сэсія, зарганізаваная Старшынёю Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе прафэсарам Зінаю Гімпелевіч, мела месца ў аўторак 1 чэрвеня. На беларускія тэмы было прачытана тры даклады. Пра беларускасьць Марка Шагала гаварыла Івонка Сурвілла, пра Васіля Быкава – Зіна Гімпелевіч і пра беларускую рок-музыку (разважаньні над вокладкамі беларускіх рокераў) – этнамузыколяг Паўліна Сурвілла.

Даклады зь вялікаю ўвагаю і зацікаўленьнем слухала паважная група славістаў, пераважна ўкраінцаў, якія адыгрываюць вялікую ролю ў жыцьці Канадыйскай Асацыяцыі Славістаў. На Канфэрэнцыі ў Вініпэгу др. Зіна Гімпелевіч была абраная ва ўправу гэтай навуковай арганізацыі на пасаду скарбніка.

***Я. В.***

## У падтрымку ўдзельнікаў галадоўкі ў Беларусі

У Нью Ёрку 17 чэрвеня прайшла акцыя падтрымкі патрабаваньняў галадуючых у Менску дэпутатаў палаты прадстаўнікоў і сябраў апазыцыйных партыяў адносна забароны трэцяга тэрміну для Лукашэнкі, зьменаў выбарчага заканадаўства і вызваленьня ўсіх палітвязьняў. 8 чэрвеня ад імя БАЗА быў распаўсюджаны Зварот да галадуючых, у якім выказвалася падтрымка мэтаў галадоўкі. Зварот быў надрукаваны ў газэце "Народная Воля" ў Менску і распаўсюджаны праз агенцыю навінаў Белапан. Інфармацыя пра падрыхтоўку акцыі 17 чэрвеня прагучала на хвалях "Радыё Свабода".

Акцыя салідарнасьці з галадуючымі пачалася а 4:00 каля будынку штаб-кватэры ААН. Удзельнікі дэманстрацыі трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі й плякаты з надпісамі па-ангельску і па-беларуску "Падтрымліваем галадоўку ў Менску", "Не – трэцяму тэрміну Лукашэнкі, так — дэмакратычным выбарам і вызваленьню палітвязьняў". Распаўсюджваліся ўлёткі з апісаньнем мэтаў акцыі, гучала "Жыве Беларусь!". Затым удзельнікі акцыі прайшлі да консуляту Рэспублікі Беларусь і працягнулі акцыю на 3-й Авэню пры 44 вуліцы.

***Віталь ЗАЙКА***




## Канадыйскія дзеткі салідарныя зь Беларусьсю

Апошнім часам весткі, зьвязаныя зь Беларусьсю, рэдка напаўняюць сэрца цяплынёю, таму хочацца расказаць пра падзею, якая мяне сапраўды расчуліла.

Калі я прыехала дахаты з майго апошняга падарожжа, на тэлефоне мяне чакала паведамленьне ад настаўніцы сярэдняй школы La Grande Riviere, некалькі кілямэтраў ад месца, дзе я жыву, на паўночным беразе ракі Атавы, каля канадыйскай сталіцы. Аказалася, што вучні школы, даведаўшыся яшчэ ў 2003 годзе пра наступствы Чарнобылю ў Беларусі, вырашылі прысьвяціць свой сёлетні школьны праект "Салідарнасьць" дзеткам Беларусі. Вырашылі зьвязаць кожны па шаліку і выслаць усё зробленае ў Беларусь.

Не было гэта лёгка. У нашым часе амаль ніхто ў Канадзе ўжо ня вучыць дзяцей вязаць. І таму трэба было знайсьці спэцыялістку – бабулю – якая была гатовая дапамагчы маладым энтузыястам веку каля дванаццаці гадоў зрэалізаваць праект. А было іх 245. Працавалі ўсю зіму. І, нарэшце, скончыўшы ўсе шалікі, зазванілі мне, каб спытаць, як іх пераслаць.

Праблемы гэтай, праўда, я да сёньня ня вырашыла. Але спадзяюся, што будуць добрыя людзі, якія перавязуць тыя шалікі, і перададуць іх у дзіцячыя дамы, дзе яны напэўна спатрэбяцца.

Тым часам была гэта цудоўная нагода спаткацца зь дзецьмі й настаўнікамі, падзякаваць ім за такую шчодрую ініцыятыву, і расказаць пра Беларусь. Гэта я і зрабіла ў сераду, 9 чэрвеня. Цяпер застаецца падараваць школе прыгожую кнігу пра Беларусь.

***І. СУРВІЛЛА***

# Дзейнасьць Балтыйска-Амэрыканскага Нацыянальнага Камітэту

Аб'еднаны Балтыйска-Амэрыканскі Нацыянальны Камітэт (АБАНК) агалосіў стратэгічныя мэты для будучай палітычнай дзейнасьці балтыйска-амэрыканскіх арганізацыяў у Злучаных Штатах.

На працягу апошніх дзесяці гадоў дзейнасьць мільённай балтыйска-амэрыканскай грамады была скіраваная на прыняцьце Латвіі, Летувы й Эстоніі ў НАТО і Эўрапейскі Зьвяз.

Галоўныя праекты на будучыню ўключаюць: сьведчаньне наступстваў камунізму; экспарт "балтыйскага вопыту" за межы Балтыі, умацаваньне трансатлянтычнай інтэграцыі й рэгіянальнага супрацоўніцтва. Каардынацыя дзеяньняў зь блізкімі па мэтах арганізацыямі застаецца жыцьцёва-важным элементам дзейнасьці АБАНК, асабліва ў год прэзыдэнцкіх выбараў.

Сёньня два праекты знаходзяцца ў дзеяньні: пабудова мэмарыялу ахвярам камунізму і падтрымка дэмакратычных працэсаў у Беларусі.

Слуханьні грамадзкай камісіі, якая наглядае за пабудоваю помнікаў ў Вашынгтоне, акруга Калюмбія, прызначаныя на 29 ліпеня. Ёсьць надзея, што прапанова пабудовы помніка на Мэрылэнд і Канстытушэн Авеню будзе ўхвалена. Іншыя высілкі міжнароднай супольнасьці адносна злачынстваў камунізму таксама знаходзяцца пад пільнаю ўвагаю АБАНК.

Адносна Беларусі Аб'еднаны Балтыйска-Амэрыканскі Нацыянальны Камітэт працуе над паскарэньнем прыняцьця Кангрэсам ЗША Акту аб дэмакратыям у Беларусі, які падтрымлівае "дэмакратыю, правы чалавека і першынство закону" і "кансалідацыю і ўмацаваньне незалежнасьці й сувэрэнітэту Беларусі". АБАНК пераконвае заканатворцаў у прыняцьці Акту да восеньскіх выбараў.

АБАНК (The Joint Baltic American National Committee, Inc.,) рэпрэзэнтуе Estonian American National Council, Inc., American Latvian Association, Inc. і Lithuanian American Council, Inc.

*http://jbanc.org*

# Новы япіскап БАПЦ

Зь Беларусі ў ЗША прыляцеў 26 траўня новы япіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Я. М. Звышасьвячаны Ўладыка Васіль.

На лётнішчы ў Ньюарку Ўладыку сустрэлі з кветкамі прадстаўнікі Кансысторыі й парафіяў БАПЦ у Брукліне, Н. Ё., ды Гайленд Парку, Н. Дж. Адтуль Уладыка накіраваўся ў Гайленд Парк, дзе адправіў дзьве першыя Божыя службы, а пасьля будзе служыць у Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ды неўзабаве наведае парафію БАПЦ у Таронта ды іншыя беларускія асяродкі ў Канадзе.



Я. М. Звышасьвячаны Япіскап Васіль (сьвеце Віктар Касьцюк) нарадзіўся 11 верасьня 1971 году ў Пінску. У 1992 годзе, ідучы за Божым клічам і наказам ягонае душы, пачаў навуку ў Менскай духоўнай сэмінарыі ў Жыраве (Жыровічах), якую ў 1995 годзе скончыў з ступеняй бакалаўра Багаведы (Багаслоўя). Услед за тым ад 1995 да 1999 году вучыўся ў Маскоўскай духоўнай акадэміі, пасьля сканчэньня якое, за працу "Гісторыя Пінскае япархіі (1921-1944 г. г.), атрымаў ступень кандыдата Багаведы.

У студзені 1999 году ён прыняў манаскі пастрыг зь імём Васіль, а ў красавіку таго-ж году быў усьвечаны на ерадыякана, ды ў ліпені прызначаны на выкладчыка літургікі ў Менскай духоўнай акадэміі й сэмінарыі ў Жыраве. Пасьля году выкладчыцкае працы ў жахлівых духовых і матар'яльных умовах, ня змогшы дзеля антыбеларускага настаўленьня герархіі Маскоўскага Патрыярхату абараніць падрыхтаваную ім на атрыманьне дактарату дысэртацыю "Гісторыя Праваслаўя на Беларускім Палесьсі (X-XX ст. ст.)", ерадыякан Васіль Касьцюк пакінуў Жырава і вярнуўся ў родны Пінск.

Не жадаючы далей заставацца ў Маскоўскім Патрыяхраце, ён неўзабаве наладзіў лучнасьць зь Я. М. Мітрапалітам Ізяславам і Кансысторыяй БАПЦ, на запрашэньне якіх прыехаў летась у ЗША, праз тры месяцы знаёміўся з жыцьцём БАПЦ у замежжы, а Першагерарх ды амэрыканскае духавенства і вернікі БАПЦ знаёміліся зь ім.

У выніку гэтага азнаямленьня і з увагі на патрэбу новага япіскапа на дапамогу, а з часам і зьмену ў паважным ужо веку Я. М. Мітрапаліту Ізяславу, сам Першагерарх і Рада БАПЦ зьвярнуліся да Галавы Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Мяфодзія з просьбаю ўсьвяціць айца Васіля Касьцюка на япіскапа БАПЦ. Просьба гэтая была сустрэтая прыхільна і, пасьля атрыманьня а. Васілём ад кіраўніцтва Маскоўскага Патрыярхату ў Беларусі дазволу на пераход у іншую япархію, прынятая да выкананьня. У выніку ў нядзелю, 7 сакавіка г. г., Я. М. Мітрапаліт Мяфодзі ўсьвяціў а. Васіля ў сьвятарскі сан ды ў канцы Сьв. Літургіі ўзвысіў у годнасьць ігумена, а пасьля архімандрыта. Сьледам за гэтым, у суботу, 13 сакавіка г. г., на ўсяночным часаваньні адбылося названьне архімандрыта Васіля япіскапам Бруклінскім і Баранавіцкім БАПЦ. Урэшце, у суботу, 20 сакавіка г. г., Іх Міласьці: Блажэннейшы Мітрапаліт УАПЦ Мяфодзі й архіяпіскап Віньніцкі Раман ды япіскап Чаркаскі Якаў усьвяцілі архімандрыта Васіля ў япіскапскую годнасьць.

Гэткім чынам пры кіраўніцтве БАПЦ стаў малады яшчэ беларускі патрыёт, што зраньня ў ягоным жыцьці прысьвяціў сябе на службу Богу і свайму народу ды здабыў ужо паважныя асягненьні ў дасьледаваньні гісторыі Праваслаўя ў Беларусі, стаўшы аўтарам або рэдактарам 6 кнігаў і каля 50 артыкулаў на гэтую ды іншыя рэлігійныя тэмы.

*Кансысторыя БАПЦ*

# 58-ы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі

Агульны гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, 58-ы па ліку, адбыўся 5 чэрвеня сёлета. Дэлегаты сабраліся ў залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру на 39 Holden Rd у Лёндане. Старшыня ЗБВБ спн. Л. Міхалюк павітала прысутных і зьвярнулася да а. А. Надсона пачаць зьезд малітваю. Хвілінаю цішы ўшанавалі памяць сяброў арганізацыі, якія адыйшлі ў лепшы сьвет.

Мандатная камісія ў складзе: М. Швэдзюк, Яўсімовіч і С. Будкевіч падлічыла колькасьць прысутных на зьезьдзе і вырашыла, што кворум ёсьць, тым самым прызнаўшы зьезд правамоцным.

У прэзыдыюм увайшлі: М. Швэдзюк, В. Еўдакімаў і М. Пачкаеў.

Справаздачу зь дзейнасьці ўступаючай Галоўнай Управы здала спн. Л. Міхалюк. Фінансавую справаздачу зрабіў скарбнік С. Піткевіч. Ад Наглядной Рады выступіў М. Швэдзюк. Доўгі час ўзяла дыскусія над справаздачамі. Урэшце, уступаючай Управе быў аднагалосна вынесены абсалютарыюм з падзякаю.

Падчас выбараў на Старшыню Галоўнай Управы сёлета была аднагалосна абраная спн. Лёля Міхалюк, заступнікам стаў Мікола Пачкаеў, сакратаром-скарбнікам С. Піткевіч, сябрамі Ўправы А. Сенька і П. Шаўцоў, у Наглядную Раду ўвайшлі: В. Еўдакімаў, Калінін і Яўсіловіч.

Старшыня новай Галоўнай Управы падзякавала за давер і запрапанавала закончыць зьезд адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Сяброўкі ЗБВБ прыгатавалі пачастунак. Пры чарцы віна хутка прайшоў час, і ўжо трэба было разьяжджацца да розных куткоў Англіі.

*Сыльвэстар БУДКЕВІЧ*

# 60-я ўгодкі інвазіі Нармандыі ў Францыі

Тую івазію Нармандыі 6-га чэрвеня 1944 году назвалі "Другім фронтам". Так жадаў "Першы фронт" на ўсходзе Эўропы. Рыхтаваліся наведаць магілкі ў Францыі й помнікі вэтэранам прэзыдэнты, прэм'ер-міністры ды іншыя высокія чыноўнікі, насампершыя зь іх абчэпленыя ваеннымі мэдалямі старыя вэтэраны той інвазіі з ЗША, Канады, Вялікай Брытаніі, Францыі, Нямеччыны, Расеі, Польшчы ды іншых краінаў удзельніцаў Другой Сусьветнай вайны.

У найбольшым горадзе Канады Тароньце падрыхтоўка ішла месяцамі. Галоўнае пытаньне: каго-ж за дзяржаўны кошт з вэтэранаў выслаць на нармандзкі бераг, брытанска-канадыйскі сэктар Джуно?

Мяне цікавіла сьвяткаваньне 60-х угодкаў інвазіі з прычыны ўдзелу ў Беларускай Краёвай Абароне ў Менскай школе афіцэраў БКА. Ніхто з нас, дабраахвотнікаў-юнакоў, тады ня чуў пра тую інвазію Нармандыі сіламі заходніх хаўрусьнікаў. І ніхто хто з нас ня марыў, што яшчэ ў той самы год удасца апынуцца ў польскай арміі, бо былі народжаныя калісьці ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй.

Сёлетняя нядзеля 6 чэрвеня ў Тароньце ўсьміхнулася цудоўным сонечным надвор'ем. Яно-ж і спанукнула мяне апранууцца ў тое, што называю "вэтэранскай вопрадкай" — мэдалямі за ўдзел у італьянскай кампаніі супраць немцаў. У Тароньце тым часам не знайшлося ніводнага вэтэрана зь беларусаў, таму давялося ісьці самому.

Зборы канадыйскіх вэтэранаў меліся адбыцца каля ўрадавага будынку парляманту правінцыі Антарыё дзесьці каля 4 гадзіны папаўдні; я пакінуў свой дом а гадзіне 10 і пачаў тое сьвята на шляху да гарадзкой ратушы. На абшырнай, мо на гэктараў пяць, плошчы перад ратушаю каля помніка Ўінстану Чэрчылю трапіў мне на вока нейкі вэтэран, якога сябры стараліся сфатаграфаваць побач Чэрчыля. Не ўдалося нават агледзецца, як мяне залічылі ў сваю, чэрчылеву кампанію. Праўда, нейкі скульптар, ці можа цэлы камітэт іх, ці то забыліся, ці то наўмысна пакінулі колішняга лідэра Вялікай Брытаніі з адкрытым ротам, але-ж пустым, бяз сусьветнаведамай цыгары. Канадыец вэтэран вельмі па-сяброўску запрашаў мяне падыйсьці вунь да стала ды зарэгістравацца. Там услужлівыя маладыя людзі прапанавалі ветліва падпісацца на лісту вэтэранаў Канадыйскага легіёну. Да гэтага легіёну я ніколі не належаў і адказаў на іхныя пытаньні, высьвятляючы, дзе ваяваў і зь якой краіны сюды, у Канаду, прыплыў.



*На здымку: Кастусь Акула, 1946 год, Італія.*

Нейкі высокі ў цывільным чалавек прадставіўся як зацікаўлены вельмі краінаю, лдзе я нарадзіўся; давялося тлумачыць чалавеку, дзе тая Беларусь, пра якую гэты вельмі-ж цікавы канадыец зь нейкіх прычынаў ніколі ня чуў.

- А чым-жа ад расейскай і польскай, абедзьвюх славянскіх, розьніцца вашая беларуская мова? — спытаўся мяне.

Магчыма, што ён філялёгіяй цікавіцца, меркаваў я.

- Калі будзеце церпялівым, то засьпяваю вам канадыйскі наш гімн беларускаю моваю, якія я ўлажыў.

*Працяг на бачыне 7*

# Беларусь за месяц

*Лета — час адпачынкаў як для ўлады, гэтак і для апазыцыйных дзеячаў. Таму ў гэтую пару году жыцьцё нібы замірае, а акторы палітычнае сцэны нібы набіраюцца сілаў перад асеньне-зімовымі спэктаклямі й гастролямі. Парушыла гэтую ідылію хіба галадоўка дэпутатаў з групы "Рэспубліка" з палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу, якая прыцягнула ўвагу як беларускай, гэтак і замежнай грамадзкасьці.*

## Хроніка галадоўкі

Галадоўка была абвешчаная 3 чэрвеня дэпутатамі парляманцкае групы "Рэспубліка"— генэралам Валерам Фраловым, Сяргеем Скрабцом, Уладзімерам Парфяновічам.

Прычыны і мэты: кіраўніцтва ніжняй палаты парляманту ў гэты дзень адмовілася разглядаць папраўкі ў Выбарчы кодэкс, унесеныя ў парлямэнт і выпрацаваныя сябрамі "Рэспублікі" яшчэ ў чэрвені мінулага году (!). Гэта зьмяненьне прынцыпу фарміраваньня выбарчых камісіяў, уключэньне ў іх склад прадстаўнікоў палітычных партыяў, пашырэньне правоў назіральнікаў, адмена пяцідзённага датэрміновага галасаваньня. На прыняцьце гэтых паправак зьвяртала ўвагу беларускіх уладаў і міжнародная супольнасьць.

Пасьля таго, як кіраўніцтва палаты адмовілася ставіць пытаньне ў парадак дня, трое дэпутатаў і абвясцілі галадоўку. Да вышэйпералічаных патрабаваньняў дадалося: зьмяненьне меры стрыманьня пад вартаю палітыку Міхаілу Марынічу, які знаходзіцца пад арыштам з 26 красавіка — гэты арышт у канцы чэрвеня падоўжаны да 26 жніўня — і патрабаваньне спыніць гульні вакол мажлівага рэфэрэндуму аб падаўжаньні прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі.

Напачатку дэпутаты зьбіраліся праводзіць акцыю ў сьценах парляманту, але на наступны дзень дзеля ўнікненьня нейкіх нечаканасьцяў і правакацыяў перайшлі на кватэру генэрала Фралова.

На наступны дзень да галадоўшчыкаў далучыліся сябры Аб'еднанай грамадзянскай партыі Марына Багдановіч і Генадзь Ананьеў. Крыху пазьней — сябры АГП Юры Істомін, Уладзімер Чырвоненка, намесьнік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч і Уладзімер Радзівончык. Да галадоўкі далучыліся таксама чатыры чалавекі ў Віцебску, тры — у Наваполацку, па адным у Жодзіне і Гомлі. Яны галадалі ў рэгіёнах.

Усе дэмакратычныя партыі й арганізацыі Беларусі падтрымалі галадоўшчыкаў. Выказала падтрымку і замежжа: парлямэнтарыі Нямеччыны й Летувы, амэрыканскі сэнатар Джон Маккэйн, а таксама старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла.

Рэзка адмоўна паставіліся беларускія ўлады й Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя — БНФ. На сойме КХП-БНФ была прынятая пастанова, у якой галадоўка была названа "вадэвільным шоў".

17 чэрвеня ў Беларусі ў падтрымку галадоўшчыкаў быў праведзены страйк прадпрымальнікаў. Усяго ў ім узялі ўдзел каля 80 тыс. чалавек. Страйкавалі ў Менску, Пінску, Салігорску, Бабруйску, Полацку ды іншых гарадох.

Галадоўка крыху напалохала кіраўніцтва парляманту. Было прынятае рашэньне пра разгляд паправак у выбарчы кодэкс на сэсіі 22 чэрвеня. Праўда, большасьць паправак была адхіленая За іх прагаласавалі 8 чалавек, супраць — 71.

Дэпутаты спынілі галадоўку за дзень да слуханьняў, 21 чэрвеня, заявіўшы, што мэты акцыі дасягнутыя. Увага грамадзкасьці была прыцягнутая, а ў выбарчыя камісіі можна ўключаць прадстаўнікоў палітычных партыяў.

Цяпер дэпутаты "Рэспублікі" будуць рыхтавацца да акцыі 21 ліпеня, калі споўніцца 10 гадоў з таго часу, як адбылася інаўгурацыя Лукашэнкі (20 ліпеня 1994 г.). Яны хочуць правесьці масавы народны сход у Менску, каб народ сам вырашыў, ці варты Лукашэнка таго, каб кіраваць краінаю наступны тэрмін.

## Акцыя ў падтрымку "Народнай волі"

10 чэрвеня на Кастрычніцкую плошчу беларускае сталіцы прыйшло каля 400 чалавек, каб падтрымаць адзіную штодзённую незалежную газэту Беларусі. "Народная воля" была аштрафаваная за зьнявагу гонара і годнасьці эксстаршыні беларускага тэлебачаньня Ягора Рыбакова на 50 млн. беларускіх рублёў. Рыбакоў, дарэчы, цяпер знаходзіцца ў турме паводле абвінавачаваньня ў фінансавых злоўжываньнях. Па словах галоўнага рэдактара газэты Іосіфа Сярэдзіча, такая сума штрафу папросту давядзе яе да закрыцьця. Тым часам Аб'яднаная грамадзянская партыя прапанавала стварыць фонд "Народнай волі", каб сабраць неабходныя грошы. Самі сябры АГП сабралі каля двух мільёнаў рублёў.

## Зьезд БСДП

Чым бліжэй да парлямэнцкіх выбараў, тым больш актывізуюцца партыі.

27 чэрвеня Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя ("Народная Грамада") правяла свой VIII зьезд. Галоўныя мэты зьезду — выбары старшыні й намесьнікаў, абмеркаваньне палітычнае сытуацыі напярэдадні парляманцкіх выбараў.

Старшынём партыі, як і планавалася, быў пераабраны Мікола Статкевіч. Праўда, былой падтрымкі тут ужо не было. За Статкевіча прагаласавалі толькі 95 з 173 дэлегатаў. За ягонага апанэнта Анатоля Ляўковіча з Берасьця падалі галасы 70 дэлегатаў. Статкевіча на зьезьдзе абвінавачвалі ў аўтарытарызме, фюрэрстве, адсутнасьці працы з рэгіёнамі, стратай пазыцый у дэмакратычным асяродзьдзі, аднак вырашылі "коней на пераправе не мяняць".

## Новікавай далі два з паловаю гады

9 чэрвеня Кастрычніцкі раённы суд Менску прысудзіў Аксану Новікаву да двух з паловаю гадоў абмежаваньня свабоды ("хіміі").

Новікава ведамая як змагарадзіночка. Гэтым разам яна абвінавачвалася ў паклёпе на прэзыдэнта Беларусі: днём 5 красавіка ў тунэлі чыгуначнай станцыі Менск—Пасажырскі Новікава раздавала ўлёткі, што зьмяшчалі, на думку суду, зьвесткі, што ганьбяць прэзыдэнта Беларусі. Вось і асудзілі.

## Падаляка дэпартавалі

21 чэрвеня супрацоўнікі КДБ дэпартавалі скандальнага журналіста, намесьніка галоўнага рэдактара газэты "Время" (галоўны рэдактар — Павал Жук) Міхаіла Падаляка. Падаляк, які больш за дзесяць гадоў працаваў у беларускай журналістыцы, як аказалася, быў грамадзянінам Украіны. Падстава для дэпартацыі — хлусьлівыя зьвесткі, што друкаваліся ў "Времени".

## Пра сваіх Ротшыльдаў

Міністэрства па падатках і зборах скончыла падлік грашовых паступленьняў ад сплочаных падаткаў. Аказалася, што сукупны гадавы даход самага багатага менчука ў 2003 г. склаў 664,2 млн рублёў (гэта 310 тыс. даляраў, ці штомесячны заробак ў 25,7 тыс. даляраў). Індывідуальны прадпрымальнік з Горадні за год зарабіў 5 млрд. рублёў (2 млн. даляраў).

## Заробак абагнаў рост цэн

Паводле Міністэрства статыстыкі й аналізу, сярэдні налічаны заробак работнікаў ў траўні склаў 336.360 рублёў ($156,1, ці 127,2 эўра), рабочых і служboўцаў — 349,2 тыс. рублёў ($162, ці 132 эўра). Са студзеня заробак павялічыўся ў сярэднім на 12%, а рост цэнаў склаў 7%.

Да канца году ўрад абяцае павялічыць заробак у сярэднім да 190 даляраў.

## Атрутная казка

У летніку "Лясная казка", што пад Баранавічамі, атруціліся 47 дзяцей векам ад васьмі да трынаццаці гадоў. Дзеці захварэлі на ерасінёз — разнавіднасьць вострай кішачнай інфэкцыі. Хучэй за ўсё, інфэкцыя трапіла праз нямытую садавіну і гародніну. Летнік зачынены, а кухары будуць пакараныя.

*Уласны карэспандэнт*

## Грамадзкі рэфэрэндум

Актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Маладога Фронту ды іншых арганізацыяў арганізавалі ў мінулыя выходныя ў Віцебску, Горадні й Ваўкавыску грамадзкае галасаваньне ў справе трэцяга прэзыдэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі. З 3922 чалавек, што ўзялі ўдзел у галасаваньні, больш за 92% выказаліся супраць таго, каб адна і тая-ж асоба займала прэзыдэнцкую пасаду больш за два тэрміны.

Вынікі галасаваньня былі наступныя: у Віцебску з 1045 чалавек 82% супраць трэцяга тэрміну, у Горадні з 2519 прадпрымальнікаў мясцовых рынкаў супраць амаль 98%, у Ваўкавыску з 361 прагаласаваўшых "не" трэцяму тэрміну сказалі 92%. Цягам месяцу падобнае галасаваньне апазыцыянэры зьбіраюцца арганізаваць у іншых абласных цэнтрах, буйных гарадох і ў сталіцыБеларусі.

## 80-годзьдзе Валя Быкава

19 чэрвеня з самое раніцы сотні людзей з кветкамі й свечкамі ішлі на магілу Васіля Быкава, што на Ўсходніх могілках у Менску, каб адзначыць 80-я ўгодкі з дня нараджэньня пісьменьніка. Сябры, калегі й прыхільнікі таленту Васіля Быкава ўшаноўвалі ягоную памяць, чыталі вершы, сьпявалі нацыянальныя песьні. З Украіны да магілы Быкава прыехаў Васіль Бондар, з Масквы – Рыма Казакова, Валянцін Аскоцкі, Юры Чэрнічэнка.

У менскім Доме літаратара адбылася вечарына, прысьвечаная 80-годзьдзю зь дня нараджэння Васіля Быкава. У перапоўненай залі прайшла прэзэнтацыя некалькіх новых кнігаў твораў пісьменьніка і ўспамінаў ягоных сяброў, а таксама кампакт-дыску "Быкаў на Свабодзе". Сярод тых, хто прыйшоў на быкаўскую вечарыну, былі ведамыя пісьменьнікі, удава пісьменьніка Ірына, амбасадары.

У вёсцы Бычкі на Вушаччыне адкрыўся мэмарыяльны музэй Васіля Быкава. Тры месяцы таму сядзібе пісьменьніка быў нададзены статус культурна-гістарычнай каштоўнасьці, і таму наведнікі музэю ўбачылі родную хату Васіля Быкава амаль такою, якою яна была ў часы ягонага маленства. З 27-га красавіка гэтага году сядзіба Быкавых занесеная ў пералік помнікаў гісторыі й культуры.

На філфаку БДУ адкрытая мэмарыяльная аўдыторыя Васіля Быкава. Імя народнага пісьменьніка нададзенае аўдыторыі нумар 304 філялягічнага факультэту БДУ.

Надмагільным помнікам Васілю Быкаву будзе валун з Фінляндыі. Некалькі беларускіх скульптараў распрацавалі макеты надмагільнага помніку Васілю Быкаву. Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч атрымаў з Фінляндыі фотаздымкі валуна і схему ягонага ўсталяваньня на адмысловым пастамэнце, распрацаваным тамтэйшымі майстрамі. На валуне надпіс: "Васіль Быкаў" і гады жыцьця.

Фінляндыя была першаю краінаю, якая прыняла Васіля Быкава пасля таго, як улады на радзіме распачалі публічныя выпады супраць пісьменьніка, стварыўшы яму невыносныя ўмовы жыцьця і творчасьці й вымусіўшы зьехаць за мяжу.

У гарадзенскай гарадзкой філіі Таварыства беларускай школы адбылася вечарына, прысьвечаная Васілю Быкаву. Старшыня дэмакратычнай арганізацыі ветэранаў Мікалай Мельнікаў паведаміў, што ветэраны напрыканцы месяца маюць адчыніць музэйны пакой, прысьвечаны творчасьці Васіля Быкава.

Вільня адзначыла 80-годзьдзе Быкава прэм'ераю дакумэнтальнага фільму аб ім. У Вільні адбылася гарадзкая вечарына памяці Васіля Быкава, дзе быў паказаны дакумэнтальны фільм рэжысэра Віктара Корзуна "Васіль Быкаў. Вяртаньне".

Беларускія суполкі, якія ініцыявалі вечарыну, ладзілі імпрэзу ня толькі і ня столькі для беларускай грамады, а для ўсёй Вільні. У імпрэзе бралі ўдзел літаратары зь Беларусі й Летувы. З Фінляндыі прыехаў паэт Уладзімер Някляеў.

***Паводле Радыё "Свабода"***

# Таварыству Беларускай Мовы - 15 гадоў

Сёлета 27 чэрвеня Таварыства Беларускай Мовы адзначыла 15 год зь дня заснаваньня.

Ад утварэньня да 1997 году арганізацыю ўзначальваў Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. У той час беларуская мова стала прэстыжнаю, а яе носьбіты вызначаліся сваёй адукаванасьцю. У крызысныя 1997-199 гады на гэтай пасадзе быў ведамы палітык і культурны дзеяч, паэт Генадзь Бураўкін. ТБМ тады ня толькі выжыла, але і пашырыла сваю дзейнасьць. З 1999 году па сёньня Таварыства ўзначальвае кандыдат гістарычных навук, грамадзкі дзеяч Алег Трусаў. Пад ягоным кіраўніцтвам ТБМ здолела ператварыцца ў сапраўды агульнабеларускую арганізацыю, якая налічвае каля 10 000 сяброў і прыхільнікаў больш як у 12 краінах сьвету.

*Да сваіх угодкаў ТБМ выпусьціла адмысловы канвэрт, выяву якога бачыце ніжэй.*



# Беларуская замежная прэса і радыё

## Беларускаму Агляду спаўняецца 15 гадоў

Ідэя англамоўнага часапісу паўстала ў 1989 годзе. А было гэта так. У канцы сакавіка тры інжынеры, што жылі ў Каліфорніі, Косьцік Вайцяхоўскі (мэханіка), Юзік Арцюх (электроніка, MBA) і Юрка Станкевіч (электроніка), сабраліся разам у Косьціка (Kon Worth). Падчас абеду зайшла гутарка пра падзеі ў Беларусі. Трэба нагадаць, што гэта быў час гарбачоўскай перабудовы. Беларусь была ведамая як БССР, адная з савецкіх рэспублік. Кіравала ёю камуністычная партыя паводле загадаў з Масквы. Беларусь перажывала трэці год жахаў чарнобыльскай катастрофы й гэта быў першы год пасьля адкрыцьця Курапатаў З. Пазьняком. Узрухі культуранага адраджэньня, што пачалося ў пачатку 1980-х гадоў, выліліся ў нацыянальна-палітычны рух, укаранаваны Зьездам Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" ў студзені 1989 году ў Вільні. Тады-ж Джордж Буш-старэйшы стаўся прэзыдэнтам ЗША.

Разважаньні пра гэтыя падзеі прывялі да думкі, што трэба дапамагчы нацыянальнаму руху ў Беларусі. Але як? Высnова была, што гэта ня так проста. Захад мог-бы дапамагчы, але, нажаль, Беларусь на Захадзе была амаль няведамая. Лягічна, дыяспара павінна была пашыраць веды пра Беларусь на Захадзе – найлепш у ангельскай мове, як гэта робяць іншыя этнічныя групы. Юзік запрапанаваў выдаваць часапіс квартальнік у ангельскай мове з назваю Byelorussian Review, пазьней Belarusian Review ("Беларускі Агляд").

У далейшай дыскусіі тройка дамовілася, што Юзік будзе выконваць абавязкі рэдактара/выдаўца; Юрка будзе рабіць набор на кампутары, здаваць у друкарню і рассылаць часапіс; Косьцік згадзіўся дапамагаць фінансава. Усе трое ахвяравалі грошы на выпуск першага нумару. Пазьней дачка Юзіка Альжбэта (MBA з унівэрсытэту ў Стэнфорд, Каліфорнія) згадзілася рабіць карэкту, а Аляксандар Міцкевіч дапамагаць з рассылкаю ў Нью Ёрку.

Гэта быў час, калі была небясьпека, што крэўныя ў Беларусі могуць быць перасьледаваныя за палітычную працу сваіх сваякоў на Захадзе. Таму Юзік падпісваў свае перадавіцы й некаторыя артыкулы імём Joe Price, аналітычныя артыкулы Art Turevich, а непалітычныя, інфарматыўнага характару артыкулы й карэспандэнцыю імём Joe Arciuch. Друкаваны матар'ял без аўтарскага подпісу (артыкулы, весткі, агляд заходняй прэсы, пераклады зь беларускай прэсы й г. д.) быў рыхтаваны Арцюхом. Юрка Станкевіч у сваіх артыкулах ужываў імёны J. Kreuski, P. Rahach і G. Stankievich.

Першы нумар меў 6 рубрыкаў: Editor's Desk (старонка рэдактар/выдаўца), Features (важнейшыя тэмы), Thoughts and Observations (думкі й заўвагі); Byelorussians Abroad (беларусы замежжа), Current Events (бягучыя весткі) і Letters (лісты). У Editor's Desk была зьмешчаная першая перадавіца, дзе паясьнялася мэта часапісу і спосабы яе асягненьня. У мэце было сказана, што часапіс мае служыць англамоўным сродкам інфармацыі пра Беларусь. А каб асягнуць гэтую мэту, часапіс будзе старацца: (1) наладзіць кантакт зь беларускай англамоўнай дыяспарай, каб пазнаёміць зь гісторыяй, культурай і летуценьнямі беларускага народу аднавіць незалежнасьць свае краіны; (2) наладзіць кантакты з дасьледчыкамі, грамадзкімі інстытутамі й арганізацыямі на Захадзе, каб зацікавіць іх вывучаць Беларусь і патрэбы беларускага народу.

Першы нумар памерам 8 старонак накладам 500 асобнікаў выйшаў друкам у канцы чэрвеня 1989 году. Юрка бальшыню асобнікаў узяў з сабою ў Нью Ёрк, дзе частку прадаў, а бальшыню раздаў. Падпіска на год была $15.

Выглядала, што часапіс быў на добрай дарозе. Нажаль, пасьля двух гадоў працы Юрка заявіў, што ня зможа выконваць сваю частку працы, але будзе час ад часу дасылаць свае артыкулы. Такім чынам весь цяжар зваліўся на плечы аднае асобы – Арцюха. На працягу наступных 8 гадоў ён нёс гэты цяжар, бо ахвотнікаў заменіць Юрку не знаходзілася.

Паступова часапіс рос, з 8 старонак у 1989 годзе да 32 старонак у 1996 і з 6 рубрыкаў да 12. Новыя рубрыкі: Belarus' Forum, Fragments from Belarusian History? The Chernobyl Legacy? Belarus' Economy, Media Watch і Guest Corner. Першую старонку ўпрыгожвалі гэрб Пагоня і рэдактарам падрыхтаваная мапа Беларусі з важнейшымі гарадамі, зь беларускімі, замест расейскіх назвамі. У 2001 годзе з дапамогаю А. Рамашэўскага была створаная інтэрнэт-старонка часапісу **www.belarusianreview.org**. Выгляд першай старонкі моцна зьмяніўся з выхадам вясновага нумару 2002 году, зь пераходам кіраўніцтва да новай рэдкалегіі.




Фінансавыя справы паляпшаліся з кожным годам. Колькасьць падпісчыкаў у дыяспары і па-за ёю расла. Гадавая цана за нумар для паасобных падпісчыкаў была падвышаная да $45 у 2000 годзе, а для інстытутаў была ўведзеная цана $65 на год. Рэдактар/выдавец і ягоныя памочнікі працавалі бясплатна, а таксама і аўтары, што дасылалі свае артыкулы да друку.

Часапіс утрымоўваўся выключна за сродкі з падпіскі й ахвяраваньняў самых падпісчыкаў і арганізацыяў. Фінансавай падтрымкі па-за дыяспарай ня было. Інфармацыя, што тут падаецца ахапляе пэрыяд з 1989 да 2001 году. Асобныя ахвяраваньні былі ў памеры ад $5 да больш за $100. Вось асобы, што ахвяравалі больш за $500 на працягу гэтага пэрыяду: Я. Арцюх, М. Смаршчок, Н. Лук'янчык, У. Набагез, Б. Рагуля, П. Пагоўскі, Мітрапаліт Мікалай, К. Калоша, О. Яскевіч, Л. Трусэвіч. Іншыя ўключалі ахвяры й падпіску сваім сэнатарам, кангрэсмэнам ці дзяржаўным установам: А. Орса-Романо, Ю. Кіпель, А. Кажан, Я. Запруднік, В. Каракулька, І. і Я. Сурвіллы, М. Сьнежка, К. Акула, К. Вайцяхоўскі, А. Сільвановіч. А некаторыя рабілі ахвяраваньне на часапіс і падпісвалі сваім alma mater: А. Кіпель, К. Найдзюк, Т. Стагановіч.

Сярод арганізацыяў, што фінансава падтрымалі часапіс былі наступныя: Рада БНР, Фундацыя імя Крэчэўскага, Беларуская моладзь штату Іллінoй, Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Аб'еднаньне ў Кліўлендзе, царква Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку, аддзелы БАЗА ў Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Кліўлендзе, Беларуска-Аўстралійскае Задзіночаньне, Згуртаваньне Беларусаў Канады. Такім чынам прыход дайшоў да ўзроўню, што мог аплочваць друк, паштовыя выдаткі, кампутарныя патрэбы, інтэрнэт, паперу.

Шмат энэргіі й часу забірала ладжаньне кантактаў з дыяспарай. Друкаванага матр'ялу пра Беларусь у заходнім сьвеце не існавала. З пачатку трэба было выкарыстоўваць прэсу, што выходзіла ў Беларусі. Першыя кантакты былі наладжаныя з студэнтамі Беларусі, якія стараліся дасылаць беларускую прэсу і іншыя публікаваныя матар'ялы. Ім высылалася каля 80 асобнікаў часапісу бясплатна.

Агляд меў вельмі прыхільныя водгукі, выказваныя ў лістах, дасланых рэдактару, асабліва ад студэнтаў, што вывучалі ангельскую мову і выкарыстовалі часапіс ў сваіх школах і інстытутах. Беларуская прэса ацэньвала часапіс пазытыўна.

Макеты кожнага выданьня пасылаліся В. Багдановічу ў Менск для перадруку. Звычайна ён друкаваў каля 200-300 асобнікаў, якія распаўсюджваў у Беларусі, пераважна сярод дыпляматычнага корпусу ў Менску.

Іншы прыклад. Калі ў ліпені 1993 году ў Менск прыехала каля 900 дэлегатаў з цэлага сьвету з нагоды 3-й Усябеларускай Палітычнай Канфэрэнцыі й 1-га Кангрэсу Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", Багдановіч надрукаваў 800 асобнікаў "Агляду". 700 ён прадаў, а 100 раздаў. На круглым стале пра дзяржаўнасьць Беларусі ён выступіў з прамоваю, дзе падкрэсьліў вартасьць і патрэбу "Агляду" ў пашырэньні беларускай справы. Спікер парляманту С. Шушкевіч, міністар замежных справаў П. Краўчанка і лідэр апазыцыі З. Пазьняк сталіся тады падпісчыкамі.

На заходнім палітычным фронце часапіс стаўся візытнаю карткаю. Карыстаючыся ім, рэдактар здолеў навязаць кантакты зь вялікім колам дзяржаўных дзеячоў ад Белага Дому і Дзярдэпартамэнту да Кангрэсу ЗША. З дапамогаю былога амбасадара ЗША ў Беларусі Давіда Сўорца (David Swartz), яму ўдалося дамовіцца зь Дзяржэпартамантам ЗША стварыць кантактную групу. У кастрычніку 1994 году група пяці прадстаўнікоў (Я. Арцюх, А. Кіпель, А. Сільвановіч, Я. Запруднік, Р. Завістовіч) мела першае спатканьне з амбасадарам Дж. Коллінсам, які быў адказны за дыпляматычныя дачыненьні з Расеяй і ранейшымі постсавецкімі рэспублікамі за выняткам балтаў. Дж. Коллінсу быў уручаны мэмарандум з 10 пунктаў для дыскусіі. Прысутнымі былі новы амэрыканскі амбасадар у Беларусі К. Яловіц і некалькі прадстаўнікоў Дзярдэпартамэнту і іншых дзяржаўных установаў. Усе пункты былі прадыскутаваныя. Было дамоўлена, што такія спатканьні будуць адбывацца 3-4 разы на год. У выніку спатканьні з Коллінсам і ягонымі супрацоўнікамі прадаўжаліся да часу, калі ён быў прызначаны амбасадарам у Маскву ў 1997 годзе.

Разам з часапісам былі высланыя тысячы лістоў у розныя дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы, арганізацыі й прэсу. Атрымана шмат лістоў у адказ, уключна з прывітаньнямі ад прэзыдэнтаў ЗША у сувязі з угодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе.

Падчас пошукаў азылю ў ЗША Зянонам Пазьняком і Сяргеем Навумчыкам рэдактар выслаў 28 лістоў адпаведным установам. Атрыманыя пазытыўныя адказы ад віцэ-прэзыдэнта Гора і чыноўнікаў Рады Бясьпекі й Дзяржэпартаманту. Нумары часапісу былі высланыя асобам, якія шукалі азылю ў ЗША і Канадзе, як дапаможны матар'ял пры разглядзе іх справаў у судох. Студэнты, што рыхтавалі магістэрскія і доктарскія тэзы, карысталіся "Аглядам" у сваіх досьледах пра Беларусь.

Др. Давід Марплз (David Marples), прафэсар гісторыі альбэрцкага ўнівэрсыту ў Канадзе, навязаў кантакт з рэдактарам і стаўся сталым аўтарам артыкулаў пра Беларусь, якія ён зьмяшчаў у часапісе. Да яго далучыліся Янка Запруднік, Пол Гобэл (Paul Goble), былы амбасадар ЗША у Беларусі Сўорц. Д. Марплз напісаў колькі кніжак пра Беларусь, у адной зь іх, "Belarus: From Soviet Rule to Nuclear Catastrophe", зьмясьціў мапу Беларусі з "Агляду". Іншыя аўтары таксама карысталіся гэтаю мапаю.

Стэні Гойер (Steny Hoyer), старшыня Гэльсінскай камісіі Кангрэсу ЗША, у лісьце рэдактару за ліпень 1991 году дзякаваў за прысланыя нумары часапісу і зазначыў, што матар'ял у іх цікавы, што ягоная арганізацыя зацікаўленая дзейнасьцю беларускай дыяспары, і што ён загадаў зрабіць падпіску на часапіс. Другі прыклад. Рычард Армітаж (Richard Armitage), заступнік сакратара Дзяржэпартаманту ЗША, у сваім лісьце дзякаваў за прысланы летні нумар "Агляду" за 2001 год і зазначыў, што Дзяржэпартамант уважае "Агляд", як карысны сродак інфармацыі. Далей ён паясьніў палітыку новай адміністрацыі ў дачыненьні да Беларусі. Падобныя лісты прыходзілі на працягу апошніх дзесяці гадоў ад чыноўнікаў высокага рангу з ЗША, Канады й Эўрапейскага Зьвязу.

З часам амэрыканскія дзяржаўныя арганізацыі, дасьледчыя і навуковыя інстытуты, унівэрсытэты й бібліятэкі пачалі рабіць падпіскі. Да іх далучыліся некаторыя ўстановы ў Канадзе, Англіі, Францыі, Нямеччыне, Галяндыі, Швайцарыі й Японіі. А больш за 200 асобнікаў высылаюцца бясплатна місіям ААН і замежным амбасадарам у ЗША, дзяржаўным установам, палітычным дзеячам і прэсе пераважна ў ЗША.

Сярод важнейшых падпісчыкаў Гэльсінская камісія Кангрэсу ЗША, Радыё Свабода, Амэрыканская інфармацыйная агенцыя, унівэрсытэты ў Стэнфордзе, Гарвардзе, Індыяне, Вісконсіне, Таронта, Парыжы, Лёндане, Інстытут Гувэра, Стэнфардзкі й Мантэрэйскі інстытуты міжнародных дасьледаваньняў, Кара-

Працяг на бачыне 5




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №7 (462)


# Чэрвеньскі сход і ўшанаваньне сп. Зянона Пазьняка

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 12 чэрвеня прайшоў чэрвеньскі сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА. На пачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка паінфармаваў пра апошнія падзеі ў Беларусі, у прыватнасьці пра галадоўку, якую пачалі тры дэпутаты палаты прадстаўнікоў і шэраг сябраў апазыцыйных палітычных партыяў, а таксама пра перамовы Пуціна і Лукашэнкі, акцыю ў падтрымку газэты "Народная Воля", падрыхтоўку страйку прадпрымальнікаў ды іншае.

Прысутны ў залі старшыня Сусьветнай асацыяцыі беларускіх гэбраяў сп. Якаў Гутман распавёў пра радыёмост, які арганізавала з галадуючымі ў Менску нью ёркаўская расейскамоўная радыёстанцыя "Новае Жыцьцё". У перадачы прынялі ўдзел генэрал Валеры Фралоў, сп. Янка Запруднік і сп. Якаў Гутман, вядучы — сп. Яраслаў Беклямішаў. Было вырашана правесьці акцыю ў падтрымку галадуючых.

Затым пачалося ўшанаваньне сп. Зянона Пазьняка ў сувязі зь ягоным 60-гадовым юбілеем. Сп. В. Зайка ў кароткім слове адзначыў унёсак Зянона Пазьняка ў справу Беларускага Адраджэньня, ў стварэньне сучаснага беларускага нацыянальнага руху і ў здабыцьцё Беларусьсю незалежнасьці ў 1991 годзе. Затым з прывітаньнямі выступілі.: ад БАЗА — спн. Валянціна Якімовіч, якая прачытала ўрачысты адрас, па-мастацку выраблены ёю, ад імя сястрыцтва Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага — спн. Зоя Вашкевіч, ад Парафіяльнай рады Сабору — сп. Барыс Данілюк, ад імя Тарантаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады — спн. Надзея Дробіна, а таксама сп-ва Мікалай і Ліна Сагановіч, сп. Вячка Станкевіч, сп. Антон Шукелойць, а. В. Логін, сп. Я. Гутман, архіяпіскап БАП(Н)Ц Юры (Рыжы), які падараваў юбіляру сваю кнігу "Мой крыж". Юбіляру былі паднесеныя кветкі, падарункі й вялікі сьвяточны торт. Прысутныя засьпявалі "Дай, Божа, сто год". Юбіляр задзьмуў сымбалічныя сьвечкі-лічбы на торце.

Затым слова ўзяў сп. Зянон Пазьняк. Ён падзякаваў усім прысутным за гонар, цёплыя кранальныя словы й падарункі. Прамоўца коратка ахарактарызаваў сваю дзейнасьць і шлях, пройдзены беларускім рухам. Сп. Пазьняк у прыватнасьці адзначыў важнасьць мовы як сымбалю поўнай адданасьці Беларусі: "Шмат было ў нашай гісторыі тых, што казалі аб дэмакратыі, аб лепшай долі беларуса — але казалі па-расейску, як "Крестьянін", "Белорусское общество", сацыял-дэмакраты. Былі й ёсьць людзі, што падтрымлівалі Беларусь па-расейску і па-польску. Але яны ніколі не ішлі за яе да канца. У савецкія часы ўсё скончылася генацыдам. Нацыянальныя дзеячы 1940-х гадоў — не калябаранты, а сапраўдныя патрыёты, што стварылі незалежніцкую падпольную арганізацыю, якая змагалася і супраць немцаў, і супраць бальшавікоў. Пасьля вайны ўсё беларускае працягвалі вынішчаць. Але да канца зьнішчыць не змаглі, і ў 1991 годзе адбылася нашая нацыянальная рэвалюцыя, былі вернутыя незалежнасьць, гэрб і сьцяг. "Калі ты ахвяраваўся і гаворыш па-беларуску, часта наперакор усталяванаму ладу, сваякам, сябрам — гэта значыць, што стаў на шлях; зь якога ня збочыш." На працягу 10 год ідзе пагром беларускай культуры, зьнішчэньне традыцыяў, памяці народу. Але беларускі народ, ягоная мова, ягоная гісторыя і культура застаюцца жыць, ня гледзячы ні на што.

Пасьля гэтага сп. Пазьняк сказаў: «Сёньня больш пра палітыку гаварыць ня будзем. Я хацеў-бы зрабіць тое, што ні перад якой аўдыторыяй яшчэ не рабіў. Я прачытаю свае вершы. Вершы, якія нідзе не публікаваліся». І загучалі вершы, якія мелі вельмі вялікае ўражаньне на ўсіх прысутных, і былі сустрэтыя з надзвычайным энтузіязмам.

Уладыка Васіль, япіскап БАПЦ, асьвяціў ежу, і прысутныя мелі магчымасьць выпіць і закусіць за здароўе юбіляра. Пад беларускую нацыянальную музыку ахвочыя маглі патанчыць.

Банкет быў выдатна падрыхтаваны спвам Зояй і Міколам Вашкевічамі, якім належыць асобная падзяка ў правядзеньні ўшанаваньня. Падзяка таксама належыцца сп. спн. Валерыю Дворніку, Алле Орса-Романо і Анатолю Тальянскаму.

**Віталь ЗАЙКА**

## Belarusian Review

*Працяг з бачыны 4*

леўская вайсковая акадэмія Сандгурст у Англіі ды іншыя.

У 1998 годзе Арцюх цяжка захварэў, але прадаўжаў выдаваць часапіс без затрымкі. Пачынаючы зь летняга нумару 1999 году Юрка Станкевіч ізноў згадзіўся рабіць набор, друкаваць і рассылаць часапіс, але ўжо ў Празе, дзе ён цяпер жыве.

Вясною 2002 году Вячка Станкевіч пераняў функцыю выдаўца, а Юрка Станкевіч абавязкі рэдактара. У новай рэдакцыі Арцюх прыняў функцыю рэдактара без назначэньня (editor-in-large) — удзельнічаць у рыхтаваньні перадавіц і служыць дарадчыкам. Аўтарамі згадзіліся быць Ян Максімюк, Давід Марплз, Мікалай Пачкаеў, Джо Прайс, Ян Запруднік. Новая калегія была пашыраная, у яе ўвайшлі: Алекс Сільвановіч, адміністратар; Язэп Пяцэвіч, карэктар; Сяргей Трыгубовіч, адказны за распаўсюд часапісу ў Паўночнай Амэрыцы; Юрка Станкевіч, распаўсюд у Эўропе; Каця Рэзьнікава, скарбнік.

Юрка Станкевіч таксама прыняў адказнасьць за прадукцыю, а Сьцяпан Вінакураў стаў ягоным памочнікам. Андрэй Рамашэўскі ёсьць адміністратарам інтэрнэт старонкі "Агляду". Апошнім часам да рэдакцыі далучыўся Ўладзімер Катковскі.

**Язэп АРЦЮХ**

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 10 ліпеня 2004 году ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягніком падземкі F да прыпынку *169th Street*. Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня *167 Street* і *Gothic Drive*, дзе на T-падобным скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па *Grand Central Parkway* да зьезду *Parsons Blvd*, тады па сэрвіс роўд да *168 Street* і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на *Готык Драйв* зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні *Gothic Drive* і *167 Street* стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*




## Свабоду паняволеным народам!

### 46-ы Тыдзень Паняволеных Народаў

**18 ліпеня** ў рамках Тыдню Паняволеных Народаў, што праводзіцца ў падтрымку народаў, якія пакутуюць ад таталітарызму і дыктатуры, штогод праводзіцца Марш Паняволеных Народаў, у якім традыцыйна бярэ ўдзел нью ёркскі аддзел БАЗА. Збор удзельнікаў **18 ліпеня** а **9:00** гадзіне раніцы ля гатэлю **Plaza** пры **5-й Авэню** і **59-й вуліцы**.

**ПЛЯН ПРАВЯДЗЕНЬНЯ ТЫДНЮ:**

**18 ліпеня**

**10:00-11:00** - Імша за Паняволеныя Народы ў Катэдры Сьв. Патрыка.
**11:00** - Марш па 5-й Авэню да Цэнтральнага Парку (72-я вуліца).
**12:00** - Афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў.

**22 ліпеня**

**11.00** - Дэманстрацыя Камітэту Паняволеных Народаў перад ААН на 1-й Авэню.

**25 ліпеня**

**2:00** папаўдні - Цырымонія закрыцьця, малітва і прыняцьцё ў *Immanuel Lutheran Church*, 122 E. $88^{th}$ Street, Manhattan.

# Хто забіў Янку Купалу?

Адказ-абвяржэньне "Рускім хвалям" MIX TV з Таронта на рэпартаж 28 верасьня 2003 году зь ведамага ў расейскай сталіцы гатэля "Масква", які калісьці быў сьведкам розных здарэньняў, у тым ліку зьвязаных зь лёсамі ведамых людзей. Зараз будынак на рэканструкцыі. І вось з 10-паверху вядучы перадачы кажа: "На гэтым месцы беларускі нацыянальны паэт Янка Купала пасьлізнуўся і ўпаў уніз."

Я катэгарычна не згодны з такою псэўда-інфармацыяй і прапаную для газэты "Беларус" уласны матар'ял на гэтую тэму. Адначасова падкрэсьлю, што мне, як выкладчыку роднае мовы й літаратуры, аўтару шматлікіх публікацыяў па купалазнаўству, не аднойчы даводзілася досыць балюча перажываць моманты, спалучаныя з загадкавай сьмерцю Янкі Купалы, асабліва, калі зацікаўленыя слухачы задавалі пытаньні.

Спадзяюся, што мой матар'ял паспрые нашым суайчыньнікам за межамі Беларусі даведацца пра навейшыя зьвесткі аб трагічным лёсе Янкі Купалы.

Сапраўды, жыцьцё нашага песьняра заўчасна абарвалася вечарам 28 чэрвеня 1942 году ў гатэлі "Масква", але зусім не з прычыны выпадковасьці. Купала быў забіты сакрэтнымі агенамі КГБ: зь 10 паверху лесьвіцы яго абрынулі ўніз галавою.

Як гэта было? Галоўнымі выканаўцамі былі дзьве маладыя асобы, мужчына і жанчына, "Ён" і "Яна". На ўмоўленай адлегласьці пільнаваў яшчэ адзін, трэйці. У задуманым сцэнары вядучую ролю гуляла "Яна". Як гарачая прыхільніца купалаўскай лірыкі "Яна" выбрала для сябе вобраз дзяўчыны Алесі з папулярнага вершу Купалы "Алеся", даводзячы сваё замілаваньне ад нечаканага спатканьня з самым аўтарам. Мяккі па свайму характару Купала не застаўся абыякавым, ён нават нахіліў галаву да жаночай рукі, каб шляхетна-ветліва аддзячыць... І ў гэты самы момант "прыемныя дабразычліўцы" перарадзіліся ў лютых забойцаў. Адзін "сьведка" выяўлены ў Горадні (пра яго ніжэй) так характарызаваў гэты момант, асабліва "Яе": "Ну-ж і спрытная была яна, чартоўка; усе самыя важныя "дзела" даручаліся ёй." Істотная дэталь — паэтаў туфель застаўся ў руцэ аднаго з забойцаў і ляжаў потым на месцы здарэньня.

Быў чэрвень 1942 году. Блізіўся дзень ягонага нараджэньня. Жывучы недалёка ад Казані, паэт адгукнуўся на запросіны прыехаць у сталіцу, дзе ў гатэлі "Масква" знаходзіліся эвакуанты зь Беларусі: партыйныя лідэры, урадоўцы, некаторыя пісьменьнікі. Увечары "незнаёмы" патэлефанаваў Купалу і меў зь ім размову. Для працягу яе ўзгадніўся пераход у іншы нумар. Купала выйшаў. І вось тут ён сутыкнуўся з тымі, хто зьдзясьняў злачынны палітычны антыбеларускі плян.

Аналіз сытуацыі фізычнай ліквідацыі Купалы наводзіць на падабенства з другім геніяльным паэтам нашай Бацькаўшчыны Адамам Міцкевічам. Лічу мэтазгодным зьвярнуць увагу на адную этна-гістарычную паралель, зьвязаную з узьнікненьнем іх нябесных зорак. Чаму? Бо іхныя імёны вельмі сымбалічныя, тыпалягічна збалянсаваныя і канцэптуальна знакавыя. Супадаюць дні народзінаў зь днямі сьмерці. У Купалы яны нават каляндарна супалі (на Купальле). Такая-ж самая прыкмета ў Міцкевіча, літаратурнага натхняльніка Курпалы, які прыйшоў на сьвет у самую доўгую ноч перад Калядамі. У гэты самы перыяд ён быў атручаны. Такім чынам, у сферы містычных калізіяў імёны Адама і Янкі на нябесным энэргетычным экватары ствараюць адзіную лінію вясеньне-асеньняга раўнадзенства. У гэтай кропцы раўнадзенства яны — постаці знакавыя, фэнамэн Духу народу Беларусі.

Абодва, Міцкевіч і Купала, у межах з паловы XIX да паловы XX ст. праторвалі шлях у агульнаэўрапейскі літаратурна-эстэтычны накірунак з адной і той-жа прасторы, Міцкевіч як паэт-літвін і выразьнік польскамоўнай культуры, Купала як валадар беларушчыны з ухілам тутэйшасьці.

На чужыне яны зрабілі свой апошні крок. Міцкевіч як польскі легіянэр у Істамбуле (Турцыя), Купала як беларускі бежанец у Маскве (Расея). Аўтара "Пана Тадэвуша" атруцілі свае, польскія палітычныя інтрыганты; Купалу, аўтара "Маладой Беларусі", замардавалі, як казаў горадзенскі "сьведка" таксама "нашыя".

Купалу суджана было стаць беларускім нацыянальным паэтам, як Міцкевічу — польскім. Узровень Купалавых мастацкіх абагульненьняў, асабліва ў такіх творах як "Адвечная песьня" і "Тутэйшыя", сьведчыць, што ў сваім гістарызме Купала сапраўды ўзьняўся да вяршыняў філязофскага антрапалягізму думаньня.

Таму ў паэтапнай ліквідацыі беларускай нацыянальна-сьведамай інтэлігенцыі, распачатай у 1930 годзе (усяго было расстраляна, вывезена ў Сібір звыш 240 вучоных, пісьменьнікаў і іншых творчых асобаў), асоба Купалы стала найбалючайшаю стратаю для нашае нацыі.

Але на пэўным этапе савецкай гісторыі, асабліва ў гады хрушчоўскай "адлігі", колішнія сакрэты пачалі пакрысе адштورваацца. Клятва былых службоўцаў "маўчаць" страцілі ранейшы сэнс. Так, у 1963 годзе ў Горадні "самадкрыўся" рэальны "сьведка" ў справе забойства Янкі Купалы, нехта "Турханаў". Ягонае пашпартнае імя Тартычны Іван Апанасавіч, родам з Украіны, вэтэран, узнагароджаны мэдалямі, з вышэйшай адукацыяй, колішні маёр КГБ з групы, якая дзейнічала ў час вайны на плацдарме Цэнтар — Прыбалтыка — Беларусь. Прылюдная гаворка гэтага чалавека ўзьнікла неяк выпадкова ў час абмеркаваньня пэдагогамі тэмы, што школа павінна стаць носьбітам "жыцьцёвай праўды" і, безумоўна, выклікала сапраўдны шок. Бо ён, Іван Апанасавіч, выкладчык працы, не вытрымаў пачутага і абурана сказаў: "Шаноўныя калегі, прабачце, але тое, што чуў я ад вас пра Купалу, і што ў падручніку напісана, - гэта няпраўда. Мяне зьдзіўляе вашая некампэтэтнасьць. Не было выпадку, каб нямецкія дывэрсанты пранікі ў гатэль "Масква". Купалу да рук прыбралі нашыя. Гэта кажу вам я, "Турханаў". (Ва ўспамінах ён меў звычку ўжываць былую мянушку). Гэта была бадай што самая першая і найбольш рэальная праява інфармацыі пра сьмерць беларускага песьняра.

Праз 20 гадоў навукоўцы Беларусі тэму дасьледаваньня ўзьнялі на вышэйшы ўзровень. Барыс Сачанка і Георгі Колас у газэце "Літаратура і мастацтва" апублікавалі сэрыю артыкулаў з новымі архіўнымі знаходкамі (сьнежань 1988 — студзень 1989, верасень 1992). "Як загінуў Купала?", - пісаў таксама С. Дрозд ("Настаўніцкая газэта" 01.09.1992).

З вышэй сказанага вынікае, што высновы, зробленыя Сачанкам і Коласам, дакладна супадаюць з самапрызнаньнямі "Турханава", што забойства Купалы дакладна стыкуецца ў трохкутніку Менск—Масква—Горадня. А жаночая асоба "Яна", якую ўспамінаў "Турханаў", і чэкістка па мянушцы "Ластачка" — адная асоба.

Такім чынам, мэтад параўнальна-эмпірычнага аналізу (зьместу, формы, стылю і псыхалягічнага стану) успамінаў "Турханава" і архіўныя матар'ялы даюць належную глебу сьцьвярджаць, што ў вытоках самых супярэчлівых вэрсіяў, згадак і разважаньняў, нарэшце, знойдзена аб'ектыўная гіпотэза пра сьмерць Янкі Купалы: забойства! Што горадзенскі "сьведка" як прафэсыйны сышчык, безумоўна, добра быў дасьведчаны ў арганізацыі нападу на Купалу на дзьвюх падставах — альбо праз цесныя кантакты й блізкае знаёмства з выканаўцамі тэракту, альбо як адзін з актыўных удзельнікаў і выканаўцаў.

Прабleme "Хто забіў Янку Купалу?" прысьвечаны разьдзел маёй кніжкі "Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства" Гродна, 1998.

Тэлевізійны рэпартаж MIX TV з Таронта аб трагедыі Янкі Купалы, меўшай месца ў гатэлі "Масква", прагучаў дысанансам і не адпавядае сапраўднасьці.

***Сяргей ДРОЗД, Форт Эры, Канада***

## Нашая фанатэка

# Супольны блін, ...які пахне мёдам

***"Я люблю ліцэй": веру ў цябе!" (супольны музычны праект), Мн., 2004, "БМAgroup".***




У сусьветнай папулярнай музыцы нямала прыкладаў дзіцячай ініцыятывы ў шоў-бізнэсе: "Shorts", "Take That", "Jacksons 5" і г. д. Яны яўна не маглі канкураваць з дарослымі монстрамі сцэны й перасьпяваць якога-небудзь віртуоза вакалу Робэрта Планта, пераіграць гітару Інгві Мальмстына, але заўсёды мелі стабільную папулярнасьць: прадавалі дыскі, перамагалі на фэстываляx (прыгадаем хоць той-жа бэльгійскі гіт "Comment sa va" названага "Shorts" на адным з "Эўрабачаньняў"). Дый што казаць, калі сёньняшні гігант брытанскай папсы Роббі Уільямс выйшаў зь дзіцячага праекту "Take That", а "Jacksons 5" і ўвогуле заваліў Джэксанамі ўсю Амэрыку (ад Джанэт да Майкла ўключна). А як у Беларусі?

Раней я пісаў пра спробу такой ініцыятывы ў праекце "Я люблю ліцэй", які прамацыйным накладам ліцэісты коласаўскага беларускага ліцэю здолелі выдаць у 2003 годзе (гл. "Наша слова" № 31 за 20.08.2003). Наступны выпуск прад'юсар Франак Вячорка здолеў падрыхтаваць у больш салідных студыйных умовах нават з улікам пэўных крытычных заўвагаў, выказаных у прэсе, і зацікавіў праектам сур'ёзных выдаўцоў — буйнейшага пастаўшчыка беларусікі на сусьветны музычны рынак "БМAgroup".

Праўда, маштабная прэзэнтацыя гэтага выданьня, плянаваная ў траўні на сцэне менскага клюбу "Рэактар" і падтрыманая ўдзелам сапраўдных зорак беларускай рок-сцэны (А. Памідораў, "Zet", "P.L.A.N.", "Garadzkija"), так і не адбылася. Відаць ўлады сапраўды баяцца юначай творчасьці й ваюють зь дзецьмі пасур'ёзнаму. Але дыск ёсьць і на ім ёсьць што паслухаць.

Каб вы не сумняваліся, ці могуць быць тут сапраўдныя супэргіты, нагадаю, што песьня "Каханьне" яшчэ зь першага ліцэйскага дыску трапіла ў знакамітую аўдыёэнцыкляпэдыю рок-стыляў, у томік пад назваю "Пасадзіў DEAD RAPку/Rap Not Dead", які прысьвечаны стылю hip-hop.

Супэр-гітом новага выпуску стане, бадай, трэк ліцэістаў старэйшага пакаленьня, які мае назву "Рукі". На месцы складальніка кампіляцыі я-б зь яго і пачаў альбом. Гітарыст Віталь Зыблюк неяк распавядаў мне, як яшчэ школьнікам забег дзесьці ў 1999-м годзе ў ліцэй, бо сябры сказалі, што там будуць выступаць рок-гурты "Exist" і "Млын". Канцэрт так уразіў юнака, што ён адразу вырашыў стаць ліцэістам.. Там давялося бліжэй пазнаёміцца з вакалістам і гітарыстам "Млына" Андрэям Карповічам. Потым Віталь пасьпяхова скончыў ліцэй, паступіў у БДУ, а з тым-жа А. Карповічам яны стварылі гурт "bi:p", які істотна прапісаўся ў гэтым ліцэйскім праекце.

Іхні беларускамоўны варыянт самай знакамітай песьні "Eagles" ("Hotel California", 1976) называецца "Hotel Belarus" і прываблівае нават тым, што тэкстам тут стала папуры з усяе беларускае паэтычнае клясыкі: Багдановіч, Купала, Караткевіч, Колас, Сыс, Дунін-Марцінкевіч і г. д. А вось з вакалам варта было-б папрацаваць больш пільна. І хоць голасам Бог не пакрыўдзіў паэта Андрэя Хадановіча, але валодаць такім дарам больш гарманічна ўдаецца, бадай, Любе Аноўцы ("Я не хачу паміраць"), якая па-свойму пераасэнсавала знакаміты гіт Барбры Стрэйзанд "Woman In Love". Цікавыя мэлядычна-вакальныя знаходкі ёсьць у песьнях "Лёс", "Кахаю-люблю", джазавымі імправізацыямі ўражвае "Мне сумна", а "Трускаўкі" абяцаюць на будучыню пэрспэктывы беларускай поп-дынамікі, у той час як "Некалькі соцень імёнаў" спрабуюць асядлаць энэргетыку гранджу.

Альбом разнастайны, але зафіксаваць увагу на чымсьці канкрэтным немагчыма з розных прычынаў. У прыватнасьці, з-за выдавецкай няпэўнасьці: не пазначаныя асобы ні аўтараў тэкстаў, ні кампазытараў, а ў брацкай магіле агульных імёнаў цяжка разабрацца без дапамогі камэнтатара. Тым больш, калі ў песьні "Рукі" я чую адметны голас Андрэя Карповіча, то ў рэестры выканаўцаў 10-ы трэк за ім нават не запісаны.

Ну што-ж, першы прамысловы тыраж праекта сьпечаны, і блін атрымаўся не такім ужо і камяком. Варта паслухаць, бо дзеці цікавыя хоць-бы тым, што яны растуць і разьвіваюцца.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**



# ЗАПІСЫ БІНіМ, кн.27, 2004

ЗАПІСЫ
БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES
ZAPISY 27
NEW YORK – MIENSK
2004

Рэдакцыя нумару ў складзе Натальлі Гардзіенкі (рэдактар), Алега Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча мае поўнае права быць задаволенай вынікамі свае працы: 430 старонак зборніка напоўненыя багатым, разнастайным і цікавым матар'ялам. Памер і зьмест кнігі паказваюць, што "Запісы" ў добрых руках і набываюць супрацоўнікаў. Застаецца толькі пажадаць, каб датрымлівалася ў будучыні гадавая рэгулярнасьць публікацыі, якая пачала выходзіць у 1952 годзе. Дарэчы, калі хто цікавіцца зьместам усіх папярэдніх нумароў, хай зазірне ў 26-ю кнігу, якая выйшла летась.

Што-ж нам прапануюць рэдактары гэтым разам?

Кніга адкрываецца ўшанаваньнем памяці Зоры Кіпель (1927 – 2003). Успамінамі пра яе падзяліліся галоўны рэдактар "Запісаў" праф. Томас Бэрд і сябра рэдкалегіі Янка Запруднік. Зьмешчаны тут-жа верш Міхася Кавыля "Зора", які пачынаецца словамі:

*Жыла-была Зора –*
*Дыктатуры савецкай непакора.*
*У Беларусь закаханая,*
*Яе доляй апантаная,*
*Па дарогах, шырокіх і вузкіх,*
*З гонарам несла беларускасьць.*
*Гэтае каханьне*
*Загнала яе на выгнаньне...*

Пад загалоўкам "Сустрэчы ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы" (НПБ) нябожчыца Зора падзялілася ўспамінамі пра сваю працу ў НПБ ды некаторых знакамітых наведнікаў Славянскага аддзелу, у якім яна шмат гадоў працавала. Рэдактар Н. Гардзіенка трапна забясьпечыла ўспамін даведкамі пра згадваных у ім асобаў. Лявон Юрэвіч у знак удзячнасьці сям'і Кіпеляў за падтрымку яго ў далейшай бібліятэчнай вучобе падрыхтаваў і прадмовай забясьпечыў бібліяграфію працаў Зоры Кіпель. Бібліяграфія паказвае на багатую навуковую спадчыну нябожчыцы.

Далей у нумары йдуць публікацыі:

Ірына Багдановіч – "Беларуская паэзія 20-х гадоў як зьява літаратурнага авангардызму".

Юры Гарбінскі – "Беларускі рэлігійны друк на эміграцыі. Да праблемы вывучэньня рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары ў сьвеце". Аўтар, які шмат часу правёў у царкоўных і прыватных архівах у шматлікіх краінах сьвету, дае статыстыку рэлігійных выданьняў і бібліяграфію беларускага рэлігійнага кнігадруку, складзеную на падставе кнігі Зоры й Вітаўта Кіпеляў "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе".

Натальля Гардзіенка – "Беларусы Аўстраліі: аповед пра сябе". Гэта – грунтоўны агляд гісторыі пасяленьня ды грамадзкага жыцьця, а таксама беларускіх публікацыяў у Аўстраліі.

Алег і Натальля Гардзіенкі – "Беларуская гістарычная навука ў эміграцыі й Вацлаў Пануцэвіч". Пад не зусім адпаведным загалоўкам аўтары даюць беглы пералік асобаў, што займаліся гістарычнымі дасьледваньнямі, называюць некаторыя іхныя публікацыі, каб закончыць пералік Вацлавам Пануцэвічам. Яго яны называюць "адным з сыстэматызатараў беларускай гісторыі". Якую ролю выконвае ў гістарычнай навуцы "сыстэматызатар", аўтары ня тлумачаць. Падаўшы кароткую біяграфію Пануцэвіча, яны прапануюць чытачу выбраныя часткі з Пануцэвічавай працы "Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква". А. Гардзіенка памагае чытачу ва ўспрыйманьні перадруку карыснымі даведкамі пра згадваных у тэксьце асобаў. Рэдактар засьцярогся заўвагай, што аўтар "дазволіў сабе яскравае вызначэньне ўласнай пазыцыі, якую ня варта ўспрымаць адназначна" (с.153) ды што трэба "асьцярожна ставіцца да асабовых характарыстык праваслаўных дзеячаў, дадзеных Пануцэвічам". Варта маладым дасьледнікам ведаць, што "сыстэматызатар" Пануцэвіч абыходзўся з цытатамі даволі свабодна.

Лявовн Юрэвіч – "Нашыя могілкі" (г. зн. беларускія могілкі й надмагільныя помнікі ў замежжы). Аўтар падабраў выпісы зь беларускай літаратуры на тэму сьмерці й самагубства, даў выказваньні розных асобаў, у тым ліку псыхіятраў пра гэтую зьяву, дасюль мала крануаную ў нашай літатары. Усё гэта сталася свайго роду ўступам да даволі прадстаўнічай падборкі чорнабелых фатаграфіяў беларускіх надмагільных помнікаў, у тым ліку памятнага крыжа, прысьвечанага 1000-годзьдзю хрысьціянства ў Беларусі ў канадзкай мясцовасьці Мідлэнд.

Ліст Лявона Вашка да Лявона Юрэвіча таксама закранае пытаньне жыцьця-сьмерці як у літаратурным, гэтак і ў філязофскім вымярэньні.

Падрыхтаваныя да друку Натальляй Гардзіенка "Лісты Зоські Верас да Апалёніі Савёнак", як зазначана ва ўступе да іх, успамінаюць "рамантычную пару беларускага нацыянальнага руху часу вялікіх падзеяў".

Ірына Багдановіч прадставіла чытачу факсымільныя старонкі літаратурнага часапісу "Крыніца" 1929-30 гадоў.

Янка Юхнавец – "Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 году". Матар'ял падрыхтаваў да друку Марат Клакоцкі. Разьбіраца ў Юхнаўцовых "запісках і зацемках", як і ў ягонай паэзіі, часамі даволі складана. Але можа й трэба публікаваць такія матар'ялы як стымул для думкі.

Віталь Зайка, які слушна зазначае, што "творчасьць шмат якіх амэрыканскіх паэтаў, што пісалі на ідыш і ангельскай мове, лучыць Амэрыку й Беларусь", знаёміць нас з Мэнке Кацам, амэрыканскім гэбрайскім паэтам зь Міхалішак. Да біяграфіі далучаны цыкль Кацавых вершаў пад заг. "Вяртаньне ў вёску Міхалішкі" (пераклад Тацьцяны Галідэй).

Андрэй Катлярчук апублікаваў цікавую бібліяграфічную падборку з камэнтарамі "Пра Беларусь у Швэцыі".

Заўвагамі пра кнігу Лявона Юрэвіча "Літаратурны рух на эміграцыі" ды развагамі пра "поймы" (паняткі) "эміграцыя" й "замежжа" падзяліўся Максім Шчур з Прагі.

Завяршаецца багаты зьместам 27-ы нумар "Запісаў" БІНіМ пералікам кнігаў, выдадзеных Інстытутам папярэднімі гадамі ды тых, што рыхтуюцца да друку.

***Янка ЗАПРУДНІК***

# Інвазія Нармандыі

***Працяг з бачыны 2***

- Жартуеш ці што?

*"О, Канада, як я цябе пазнаў,*
*то.кідаў гной і рана ўставаў,*
*а назаўтра я зноў даіў кароў*
*і ў полі жыта жаў,*
*ой, Канада, як я цябе паважаў!"*

Канадыец пачуўшы гэта, але ня ведаючы сэнсу словаў, адно пахваліў іхную мягкасьць. "It is really soft, as you pronounce them. Must be beautiful language."

Падзякаваўшы слухачу, я прадоўжыў сваё падарожжа па галоўнай вуліцы Таронта. Каля будынку антарыйскага парляманту сустрэў трох жаўнераў, якія, відаць, чакалі на інструкцыі, што маюць рабіць. Яны зацікавіліся мною, асабліва-ж мэдалём зь бел-чырвона-белаю істужкаю.

Перад фронтам будынку ўжо чакалі на пазьнейшых гасьцей сотні адпаведна расстаўленых крэслаў. Тут старэйшыя вэтэраны, якія бралі ўдзел у той інвазіі Нармандыі ў паўночнай Францыі, сяньня будуць сьвяткаваць угодкі, дзяліцца ўспамінамі, як хаўрусьніцкія арміі праламалі Гітлераву "эўрапейскую цьвярдыню".

Яшчэ больш гадзіны ў сваім паходзе мне дзякавалі, некаторыя называлі нават героем... Запраўды, людзі гэтыя, страціўшы родных і блізкіх, сваёю душою ядналіся з прысутнымі вэтэранамі.

З падзякаю адказваючы на такую шчырасьць людзей, якія мяне віталі, я маліўся Госпаду, каб мне паспрыяў вярнуцца ў будучыні ў Беларусь, там праслаўляць наш геразім у незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы.

***Кастусь АКУЛА***

# Лісты ў рэдакцыю

У сваім лісьце да рэдакцыі "Беларуса" сп. Міхед парушае справу ўгодкаў збройнага змаганьня вайсковых злучэньняў Беларускай Краёвай Абароны ў часе 2-й Сусьветнай вайны.

Гэтае створанае злучэньне стрымлівала наступ савецкай арміі на Захад. Сам факт наяўнасьці на той час беларускага войска для нас ёсьць вельмі важнай падзеяй. Прапанаваную ідэю варта ажыцьцявіць праз заінсталяцыю адзначэньняў Тыдня Збройных Змаганьняў. У такім сьвяце адзначаліся-б вядомыя падзеі, як Слуцкі Фронт або іншыя збройныя паўстаньні, уключна зь Беларускай Краёвай Абаронай.

Адзначэньнем гістарычных датаў мы асьвяжаем памяць веды нашага гістарычнага мінулага. Аднак, каб памяць трывала вечна, сьвяткаваньні й адзначэньні мусяць стацца цьвёрда традыцыйнымі, заўсёды падмацаванымі інсцэнізацыяй, канкрэтнымі дапаможнікамі, панарамамі, партрэтамі й выявамі бітваў.

Прапануецца БАЗА разгледзець гэтую важную справу.

***Арм***

Хачу напісаць некалькі словаў у справе падтрымкі "Беларуса". Нажаль, цяпер ня ў сілах даваць такую фінансавую падтрымку газэце, як калісьці, калі яна толькі пачала выходзіць. Мы, пяцёх дактароў з Навагрудчыны, якіх беларускае грамадзтва уважала за багатых, маючых добрую працу (а фактычна больш сьведамых), Я. Сажыч, Б. Рагуля, У. Набагез, Л. Трусэвіч і С. Грынкевіч, забавязаліся плаціць кожны месяц па $100 на ўтрымоўваньне выдавецтва "Беларуса". Нават сп. М. Прускі, які быў сябрам БАЗА ў Дэтройце і заўсёды меў амбіцыю выдаваць сваю "пісульку", у гэтым сваім часапісе пісаў пра мяне "вось бываюць жартаўнікі, як наш сябра др. Я. Сажычэнтузіяст, які за кожны нумар газэты "Беларус" плоціць сто даляраў".

Шкада, што пішучы гісторыю "Беларуса", ніхто не ўпамянуў пра гэта.

Цешуся, што цяпер "Беларус" акрыяў і стаўся зноў цікавая і паважнаю газэтаю. Жадаю памыснасьці на будучыню...

***Язэп САЖЫЧ, Флёрыда***

У апошнім нумары Вашай газэты прачытаў інфармацыю, зь якой ледзьве не вынікае, што Беларускі ліцэй у Менску мусіць перастаць існаваць, бо... не зарэгістраваны ўладамі!

Рады паведаміць, што ліцэй як жыў без афіцыйнай рэгістрацыі, гэтак і будзе жыць надалей! Навучэнцы 2-га і 4-га курсаў бліскуча вытрымалі іспыты экстэрнам у "чужых" настаўнікаў у розных школах і прадоўжаць вучобу ў нас. Цяпер мы вядзём набор новых вучняў у ліцэй! Усяго разам у наступным навучальным годзе ў нас будзе вучыцца больш за сто ліцэістаў, а працаваць зь імі будуць больш за 30 настаўнікаў.

Вядома, без падтрымкі беларускае дыяспары ў нашых варунках працягваць будзе цяжка. Мы шчыра дзякуем за тую падтрымку, што мы мелі сёлета, і разьлічваем на яе працяг і ў наступным навучальным годзе.

Па-мойму, ліцэй паказвае сёньня добры прыклад усім беларусам сьвету, як трэба ўмець трымацца свайго.

***Лявон БАРШЧЭЎСКІ, заступнік дырэктара ліцэя***

З радасьцю прачытаў у чэрвеньскім нумары "Беларуса" аб тым, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква займела свайго япіскапа, якія нядаўна прыехаў з Бацькаўшчыны поўны жаданьня прысьвяціць сябе службе Богу і беларускаму народу. Моцна цешуся, што наша родная царква пачынае ўставаць на ногі пасьля доўгіх гадоў сварак і заналотаў і, дасьць Бог, зможа нарэшце пашырыць сваю дзейнасьць і ў Беларусь.

Добра, што на бачынах "Беларуса", які заўсёды вельмі стрымана піша пра падзеі сучаснага царкоўнага жыцьця, знайшлося месца, каб паведаміць пра гэтую радасную для ўсіх праваслаўных беларусаў падзею.

Нядаўна прачытаў у польскаамэрыканскай газэце "Новы дзэньнік" ад 1 чэрвеня 2004 году, што самы малады япіскап у рыма-каталіцкай царкве быў высьвечаны ў Польшчы, і меў ён 39 гадоў. А нашаму Ўладыку ўсяго 32. Хочацца спадзявацца, што маладосьць не перашкодзіць Ўладыку Васілю годна працягваць справу Беларускай Аўтакефаліі, і ён не паўторыць памылак свайго апошняга папярэдніка.

***УЯЭР***

# Таронцкі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады

запрашае Вас на **26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**, якая мае адбыцца сёлета, у Labor Day Weekend, **4-6 верасьня 2004 году**, у **ТАРОНЦЕ, Канада**.

ТЭМА СУСТРЭЧЫ:
"Праблемы зьберажэньня культурных набыткаў, мовы і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі"

**ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:**

**Субота, 4 верасьня**

гадзіна 2-я папоўдні — Адкрыцьцё Сустрэчы ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры (524 St. Clarens Ave., блізу мэтро Lansdowne);
гадзіна 3-я папоўдні - Працоўныя сэсіі;
гадзіна 8-я вечара — Баль. Сустрэчы і канцэрт у Lithuanian Hall (1573 Bloor Street West, блізу мэтро Dundas West).

**Нядзеля, 5 верасьня**

гадзіна 10-я раніцы — Багаслужба ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага;
гадзіна 12-я — абед у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры;
гадзіна 2-я папоўдні — урачысты сход сустрэчы й канцэрт (заля БГРЦ);
гадзіна 5-я вечара — экскурсія па Таронце (для жадаючых);
гадзіна 8-я вечара — сяброўская вечарына (заля БГРЦ).

**Панядзелак, 6 верасьня**

гадзіна 9-я раніцы — Паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў Бэры.

Падчас Сустрэчы адбудзецца выстава беларускіх мастакоў Канады й Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**АРГАНІЗАЦЫІ-ФУНДАТАРЫ**: Згуртаваньне беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

**АРГАНІЗАТАР-ГАСПАДАР**: Таронцкі аддзел Згуртаваньня беларусаў Канады, (416) 530-1025.

АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ: **Кастусь Акула** — беларускі пісьменьнік, першы старшыня ЗБК; **Натальля Баркар** — сябра ЗБК; **Марыя Ганько** — сябра ЗБК; **Надзея Дробіна** — старшыня 26-й Сустрэчы, старшыня ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Віялета Кавалёва** — галоўны рэдактар газэты "Беларускае слова", кіраўнік фальклёрнай групы "Яваровы людзі", сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Руслан Качаткоў** — старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады; **Яўген Малашчанка** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Вольга Манькоўская** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Пётр Мурзёнак** — старшыня галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады; **Валянціна Шаўчэнка** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК.

Арганізатары просяць удзельнікаў своечасова паведаміць пра намер узяць удзел у Сустрэчы.

Па інфармацыю просім зьвяртацца: Таронта - **Надзея Дробіна** (416-530-1025, 416-769-3916, 416-452-2200); Атава - др. **Пётра Мурзёнак** (613-733-5775); Мантрэаль - **Анатоль Храноўскі** (514-973-1639); Нью-Ёрк - **Віталь Зайка** (718-296-1458); Дэтройт - **Люда Бакуновіч** (586-779-3048); Чыкага - **Ванкарэм Нікіфаровіч** (847-419-1943); Гайленд-Парк, Нью-Брансўік - **Юрка Азарка** (732-560-8610); Кліўленд - **Павал Васілеўскі** (440-268-0073) ; Бостан - **Раман Кардонскі** (781-369-1410)

Наконт пытаньняў разьмяшчэньня зьвяртацца да спадарыні **Валянціны Шаўчэнка** (Таронта) па тэл. **416-444-0838**.

**4 верасьня 2004 году ў Бэльгіі адбудзецца Зьезд прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі «апошняй хвалі».**

Мэтамі Зьезду ёсьць:
- абмеркаваньне становішча ў асяродку палітычных уцекачоў зь Беларусі;
- вызначэньне ролі "апошняй хвалі" беларускай дыяспары ў працэсе дэмакратызацыі Бацькаўшчыны;
- кансалідацыя беларускай эміграцыі дзеля дапамогі беларускай палітычнай апазыцыі, а таксама дэмакратычным СМІ ў Беларусі.

Падрабязьнейшая інфармацыя па падрыхтоўцы Зьезду, беларускай эміграцыі даступная на: http://www.razam.org

Арганізатары чакаюць прапановаў ды заўвагаў.

Аргкамітэт:
Беларускае Эўрапейскае Задзіночаньне (Бэльгія);
Зьвяз Беларусаў Замежжа (Чэхія);
Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі (Польшча);
Зьвяз Беларусаў Нямеччыны;
Зьвяз Беларусаў Галяндыі;
Беларускі Цэнтар у Бэльгіі;

Кантактныя тэлефоны ў Бэльгіі: (32)485175599, (32)497117469.

---

**Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне па адрасу:**
**401 Atlantic Ave**
**запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.**

---

## LEGAL NOTICE

The *Orsa Romano Cutural and Educational Foundation* c/o *A. O. Romano, 172 Mill Spring Rd., Manhasset, NY 11030* a private non-profit foundation, its tax returns available for examination at above address. For furhter information please contact A. O. Romano, tel.: (516) 627-6491.

Фонд **ДАР САКАВІКА** атрымаў наступныя ахвяраваньні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| І. Каляда-Сьмірноў | 300 | А. Радзюк | 20 |
| М. Сагановіч | 200 | а. М. Страпко | 20 |
| В. Зайка | 100 | А. Сямёнава | 20 |
| Б. і В. Стус | 50 | Н. Шашкель | 20 |
| М. Латушкін | 50 | Т. Януш | 20 |
| Я. Азарка | 50 | Г. Яшчанка | 20 |
| С. Трыгубовіч | 50 | С. Шыманскі | 13 |
| Сям'я Казураў | 50 | П. Адашкевіч | 10 |
| І. Азарка | 50 | А. Крыштаповіч | 10 |
| С. Шабовіч | 40 | А. Дубяга | 10 |
| В. Яскевіч | 30 | М. Верабей | 10 |
| М. Яцэвіч | 25 | Р. Гарошка | 10 |
| Pitney-Bowes, Inc. | 25 | Ж. Дубяга | 10 |
| Т. Капытка | 20 | а. В. Логін | 10 |
| М. Каранеўскі | 20 | К. Мірановіч | 10 |
| В. Кіпель | 20 | Э. Рыжы | 10 |
| Н. Кіт | 20 | І. Шкурка | 10 |
| А. Кузьміцкая | 20 | А. Брухноў | 5 |
| Ю. Лапіцкі | 20 | Г. і А. Гельвіг | 5 |
| А. Макарэвіч | 20 | З. Левіт | 5 |
| В. Міцкевіч | 20 | Ю. Міхед | 5 |
| У. Пашкевіч | 20 | А. Чыстабаеў | 5 |
| З. Пракапенка | 20 | Д. Юшчык | 5 |
| С. Пятровіч | 20 | | |

Шчыры дзякуй!

**Газэта "БЕЛАРУС"**
**бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.**
**Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.**

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. Кіпель | 240 |
| М. Смаршчок | 200 |
| М. Абрамчык | 50 |
| В. Гойдзь | 50 |
| Т. Кананчук | 50 |
| Н. Рагуля | 50 |
| Л. Шурак | 50 |
| Н. Кіт | 40 |
| С. Балкоўская | 30 |
| Б. Данілюк | 30 |
| П. Каян | 30 |
| І. Панкевіч | 30 |
| А. Сёмуха | 30 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Г. Харавец | 30 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| В. і В. Рамук | 10 |

Усім шчыры дзякуй!

# ПАДЗЯКА

*Дапамаговая акцыя беларускай адукацыі, пра якую шмат пісалася ў газэце, была вельмі пасьпяховаю на працягу цэлага навучальнага году!*

*Ад імя каардынацыйнага камітэту хочам падзякаваць усім, хто прыняў удзел у гэтай акцыі – установам, арганізацыям і асобам, якія далі ахвяраваньні ці аднаразова, ці штомесячна.*

*Вялікая падзяка належыцца дабраахвотнікам, якія зьбіралі ахвяраваньні, а асабліва Тані Красоўскай, якая на працягу цэлага году пасьпяхова займалася гэтаю справаю.*

*Шчыры ўсім дзякуй!*

*А. ОРСА-РАМАНО, В. СТАНКЕВІЧ*

*Юрась МІХЕД шчыра дзякуе сп. Алесю МІЦКЕВІЧУ за падараваны тамы Беларускай Энцыкляпэдыі.*

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belsrusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*

ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.